№17 (1830)
Субота, 31 студзеня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».
Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — -5...-3, сонечна, уначы — -4...-2, снег; у Брэсце ўдзень — -2...0, уначы — -4...-2, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — -3...-1, без ападкаў, уначы — -2...0, снег; у Віцебску ўдзень — -9...-7, сонечна, уначы — -6...-4, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — -5...-3, уначы — -8...-6, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — -7...-5, сонечна, уначы — -6...-4, без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## «День» прыйшоў са Смаленска

30 студзеня выйшаў першы ў гэтым годзе нумар недзяржаўнай газеты "День". Наклад выдання быў надрукаваны 28 студзеня ў Смаленску і дастаўлены ў Беларусь. У рэдакцыі спадзяюцца, што з гэтага часу газета пачне выходзіць штотыдзень.

## У Страсбургу стварылі пастаянны падкамітэт па Беларусі

У Страсбургу (Францыя) адбылося першае пасяджэнне пастаяннага падкамітэта па Беларусі Палітычнага камітэта Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы.

У яго склад увайшлі 20 чалавек. Яны прадстаўляюць Грузію, Нарвегію, Літву, Італію, Вялікабрытанію, Нідэрланды, Фінляндыю, Бельгію, Эстонію, Балгарыю, Польшчу, Швецыю, Чэхію, Турцыю і Азербайджан.

На першым пасяджэнні заслуханы даклад члена ПАСЕ **Хрыстоса Пургурыдэса** "па людзях, якія зніклі без вестак у Беларусі".

Раней падкамітэт па Беларусі меў статус часовага, а ў яго склад уваходзілі 9 чалавек.

На пытанне, як доўга праіснуе падкамітэт, Ё.Чэкуоліс адказаў, што хацеў бы, каб ён стаў непатрэбным як мага хутчэй. Асноўнай задачай сваёй працы літоўскі парламентарый лічыць супрацоўніцтва з Нацыянальным сходам Беларусі на прадмет унясення прынцыповых змяненняў у Выбарчы кодэкс да маючых адбыцца восенню гэтага года парламенцкіх выбараў. "І час яшчэ ёсць, і працэдура дазваляе. Было б толькі жаданне з боку беларускіх парламентарыяў", — сказаў Ё.Чэкуоліс у інтэрв'ю БелаПАН.

**Марына ІРХО, Вольга ЛАПІКАВА.**

## Васіля Шуста — у адстаўку!

"9 год — гэта занадта!" — пад такім лозунгам у Пінску адбыўся пікет, які арганізавалі сябры Беларускага Хельсінкскага камітэта і партыі БСДГ С.Касцюковіч і М.Мядзведзеў. Такім чынам яны адзначылі дзевяцігадовы тэрмін знаходжання ва ўладзе кіраўніка мясцовай "вертыкалі" Васіля Шуста.

Пікетоўцы звярнулі ўвагу жыхароў Пінска на значнае пагаршэнне эканамічнага становішча людзей, выкліканае яго неэфектыўным кіраваннем, і запатрабавалі адстаўкі старшыні гарвыканкама.

Нягледзячы на халоднае надвор'е, удзельнікі пікета больш за гадзіну прастаялі перад будынкам гарадской падатковай інспекцыі, трымаючы ў руках плакаты з надпісамі: "В.Шуст — у адстаўку!", "Не — дыктатуры!", "Работу выканкама — пад кантроль пінчан" і іншыя.

З боку праходжых адчувалася поўная падтрымка акцыі, а шафёры праязджаючых міма легкавушак віталі ўдзельнікаў пікета гукамі клаксонаў.

**Сідар КАВАЛЬСКІ.**

## Цюцюноў атрымаў вымову

29 студзеня Аляксандр Лукашэнка сваім указам аб'явіў вымову віцэ-прэм'еру **Анатолю Цюцюнову** і старшыням аблвыканкамаў. Паводле інфармацыі прэс-службы прэзідэнта, "за неналежнае выкананне службовых абавязкаў, якое праявілася ў адсутнасці кантролю за няўхільным выкананнем даручэння кіраўніка дзяржавы аб будаўніцтве штогод у кожнай сельскагаспадарчай арганізацыі ў сярэднім не менш як пяці жылых дамоў".

Прэм'ер-міністру **Сяргею Сідорскаму** і старшыні Камітэта дзяржкантролю **Анатолю Тозіку** "указана на павярхоўны падыход да ацэнкі дзейнасці службовых асоб, якія не забяспечылі выкананне дадзенага даручэння".

А.Лукашэнка даручыў Савету міністраў і старшыням аблвыканкамаў "прыцягнуць да адказнасці службовых асоб, якія не забяспечылі выкананне дадзенага даручэння прэзідэнта".

**Даведка БелаПАН.** Старшынёй Брэсцкага аблвыканкама з'яўляецца **Васіль Далгалёў,** Гродзенскага — **Уладзімір Саўчанка,** Віцебскага — **Уладзімір Андрэйчанка,** Магілёўскага — **Барыс Батура,** Гомельскага — **Аляксандр Якабсон,** Мінскага — **Мікалай Дамашкевіч.**

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

**ЗАКУЛІССЕ**

*Аляксандр ЛУКАШЭНКА:*

# «Адпусціце на тры-чатыры дні і не абваліце тут што-небудзь...»

Як вядома, у ходзе рабочай нарады ў чацвер А. Лукашэнка паведаміў членам урада, што збіраецца зрабіць невялічкі перапынак у сваёй працы. *"Адпусціце на тры-чатыры дні і не абваліце тут што-небудзь"*, — заявіў ён членам Кабінета міністраў. Згодна са словамі А.Р., ён збіраўся адпачнуць і раней, але ў сувязі з трагедыяй у Краснаполлі адклаў свой адпачынак.

Спробы даведацца, дзе канкрэтна збіраецца адпачываць першая асоба дзяржавы, спачатку плёну не далі: прэс-сакратарка А. Лукашэнкі **Наталля ПЯТКЕВІЧ** адмаўляецца даваць інфармацыю пра тое, дзе будзе адпачываць яе патрон — у Беларусі ці за мяжой.

Раптам пайшлі чуткі пра тое, што Лукашэнка зноў збіраецца ў Аўстрыю — на той самы супердарагі курорт, які ён ужо наведваў летась.

Я вырашыў атрымаць інфармацыю з першых рук і звязаўся з прэс-службай Міністэрства замежных спраў Аўстрыі.

— Спадар Лукашэнка прылятае ў Аўстрыю на пачатку лютага, — паведаміў "Народнай волі" супрацоўнік інфармацыйнага аддзела аўстрыйскага МЗС **Петэр ГУШЭЛЬБАУЭР**. — Ён будзе катацца на лыжах у цірольскіх гарах. Гэта прыватны візіт Лукашэнкі ў Аўстрыю. Гэта ўсё, што я магу паведаміць Вам на гэты момант...

**— Ці можаце Вы нам паведаміць назву гатэля, дзе спыніцца Лукашэнка, альбо назву авіякампаніі, паслугамі якой ён збіраецца карыстацца?**

— Не, інфармацыя падобнага кшталту нам не прадастаўляецца. Хачу яшчэ раз падкрэсліць — візіт Лукашэнкі ў Аўстрыю выключна прыватны. Ніякіх афіцыйных сустрэч у яго з аўстрыйскімі афіцыйнымі асобамі не запланавана.

**— Колькі дзён Лукашэнка збіраецца катацца на лыжах у Аўстрыі?**

— Па маёй інфармацыі, гэта будзе першы тыдзень лютага.



*Адпачынак у Аўстрыі — не для бедных...*

Цікава, і навошта гэта прэзідэнцкая прэс-сакратарка робіць таямніцу з таго, куды збіраецца ехаць Лукашэнка? Мусіць, разумее, што гэтая інфармацыя не будзе вельмі прыемнай для вуха электарату: першая асоба дзяржавы за дзяржаўны кошт ляціць у замежжа — прычым не для таго, каб вырашаць важныя дзяржаўныя пытанні, а для таго, каб пакатацца на лыжах. Пры гэтым, як усе разумеюць, адпачываць Лукашэнка будзе не на самых танных курортах і жыць не ў самых танных гатэлях. Асабліва непрыемна гэта ўсё будзе чуць беларусам ва ўмовах амаль павальнай галечы ў беларускім грамадстве і асабліва ў момант, калі яшчэ не высахлі слёзы на вачах мацярок, якія страцілі сваіх дзяцей у трагедыі ў Краснаполлі...

Нагадаем, што беларускага кіраўніка ўжо шукалі журналісты адразу пасля трагедыі ў краснапольскай школе. Шукалі, але не маглі знайсці. Як вядома, Лукашэнка з'явіўся ў Краснаполлі толькі праз 30 гадзін пасля трагедыі. Кіраўнікі іншых дзяржаў, звычайна, калі падобная трагедыя адбываецца ў іх краіне, тэрмінова прыпыняюць ЛЮБЫЯ візіты і ваяжы і вылятаюць на месца...

Гэта ж у якой такой кропцы свету павінен быў знаходзіцца сп. Лукашэнка, што да Краснаполля ён дабіраўся аж 30 гадзін? Любы авіятурыст вам скажа, што за такі тэрмін можна на самалёце Зямлю абляцець.

Як высвятляў карэспандэнт "Радыё Свабода" крыху раней, Лукашенка нібы адпачываў у той жа Аўстрыі. Вось што паведаміў прэс-сакратар аўстрыйскага Міністэрства ўнутраных спраў **Рудольф ГОЛЛЕА** пра візіт Лукашэнкі: *"Ён не быў у Аўстрыі паводле службовых спраў — гэта была прыватная паездка. Нам не дазволена гаварыць вам пра час ягонага ад'езду. Ён не быў у Аўстрыі афіцыйна, таму гэта мусіць быць сакрэтам".*

Той жа супрацоўнік аўстрыйскага МЗС Петэр Гушэльбауэр у сераду вечарам зрабіў такую заяву: *"Прэзідэнт Лукашэнка не наведваў Вены на гэтым тыдні — ні афіцыйна, ні неафіцыйна..."*

Заўважце, не наведваў Вены. Але ж Вена — гэта не ўся Аўстрыя. Ды і ці так важна, быў Лукашэнка на гэтым тыдні ў Аўстрыі ці не? Дакладна вядома адно: калі нічога не здарыцца, то на пачатку лютага ён сапраўды будзе катацца на лыжах у аўстрыйскіх Альпах.

**Алесь СІЛІЧ.**

## Мазырскі бензін стане больш якасным

Днямі на Мазырскім нафтаперапрацоўчым заводзе адбылася прэзентацыя комплексу каталітычнага крэкінгу.

Комплекс глыбокай перапрацоўкі нафты пачынае дзейнічаць, і гэта называюць другім нараджэннем завода. Увод у эксплуатацыю комплексу каталітычнага крэкінгу дазволіць МНПЗ замацаваць свае пазіцыі на сусветным рынку і пашырыць геаграфію паставак. Цяпер мазырскі высокаактанавы бензін будзе мець больш нізкую цану, іх канкурэнтаздольнасць узрасце. Сродкі, зробленыя ад продажу бензіну, дазволяць не толькі разлічыцца з інвестарамі, але і значна павялічыць валютныя паступленні.

**Лідзія РУДКОЎСКАЯ.**

## Выратавальнікі — на вышыні

На вышыні ва ўсіх сэнсах слова аказаліся супрацоўнікі віцебскага аварыйна-выратавальнага атраду "Віцязь", які выязджае на месцы здарэнняў па выкліку праз пажарны тэлефонны нумар "01". Своечасовая і кваліфікаваная праца байцоў і камандзіраў "Віцязя" папярэдзіла магчымую трагедыю на адной з будаўнічых пляцовак Віцебска.

У аператара вежавага крана здарыўся сардэчны прыступ ды такі, што рабочы страціў прытомнасць і не змог больш кіраваць сваёй велізарнай машынай.

Каб аказаць кранаўшчыну медыцынскую дапамогу непасрэдна ў кабіне, выратавальнікам давялося з максімальнай хуткасцю ўзабрацца па лесвіцы на 15-метровую вышыню, а затым, калі кранаўшчыку стала крыху лепш, спусціць яго на зямлю з дапамогай вяроўкі і перадаць у рукі медыкаў "хуткай дапамогі".

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## У Гомелі — украінскі АН-140

*Пакуль толькі на прэзентацыі*

Значная частка парка самалётаў Беларусі выпрацавала свой тэрмін эксплуатацыі і ўжо даўно мае патрэбу ў замене, заявіў намеснік старшыні Дзяржкамавіяцыі Беларусі **Іван Гярлоўскі.** Сёння сур'ёзна прапрацоўваюцца пытанні набыцця самалётаў розных вытворцаў. Харкаўскае дзяржаўнае авіяцыйнае вытворчае прадпрыемства — адзін з прэтэндэнтаў на атрыманне заказу. Сёння да ўкраінскіх вытворцаў прыглядаюцца і прыцэньваюцца. Самалёт АН-140 эксплуатуецца толькі два гады. 5 самалётаў працуюць на ўкраінскіх авіялініях, 2 самалёты — у Іране, 2 — на бурацкіх авіялініях у Расіі.

Аднак І.Гярлоўскі лічыць, што сёння яшчэ заўчасна гаварыць аб заключэнні кантракту на пакупку харкаўскіх самалётаў. Тым не менш пасля заканчэння канферэнцыі генеральны дырэктар ХДАВП Аляксандр Сцяшэнка падарыў дырэктару унітарнага прадпрыемства "Гомельавія" Анатолю Кірсанаву мадэль самалёта АН-140, каб авіятарам было лягчэй зрабіць выбар у будучым.

**Алена ПАСКАННАЯ.**

**ЗАПРАШАЕМ!**

## Вы яшчэ не бачылі дрэсіраваных вожыкаў?

*Сёння ў Беларускім дзяржаўным цырку пачынаюцца гастролі вядомага цырка Юрыя Нікуліна.*

— Праграма цудоўная і называецца "Цырк Нікуліна — Беларусі", — расказаў учора карэспандэнту "Народнай волі" адміністратар маскоўскага цырка Сямён Анцімоній. — Народная артыстка Расіі Марына Асінская будзе працаваць на канаце без страхоўкі на вышыні 6 метраў, унікальны нумар пакажа таксама народны артыст Расіі Сяргей Ігнатаў — ён будзе жангліраваць 7—9 булавамі і мячамі. Пазабавяць публіку танцуючыя коні, сабакі, малпы і нават дрэсіраваныя... вожыкі!

Цікава, што пасля кожнага прадстаўлення для дзяцей будуць арганізаваны невялічкая дыскатэка, конкурсы з клоунам і, натуральна, прызы. Таксама вызначаць "Міс манежа".

Маскоўскі цырк, дарэчы, будзе гастраліраваць у Мінску аж да 8 сакавіка, так што падзівіцца на легендарны нікулінскі цырк, спадзяюся, паспеюць усе жадаючыя.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**СКАНДАЛ**

# По скользкому льду...

*Скандальные взаимоотношения между спортсменами и тренерами, спортсменами и функционерами, тренерами и чиновниками нет-нет, да и появляются на свет Божий. И если, как правило, сор из избы выносить не особо хотят, то, случается, "всплывает" такой "мусор" — хоть лопатой выгребай...*

Очередную "бомбу" представил вчера публике через спортивную газету "Прессбол" тренер нашей ведущей конькобежки **Анжелы КОТЮГИ** — **Игорь ПОГОРЕЛОВ** *(оба на фото справа)*. Причем позвонил с просьбой опубликовать его монолог аж из Калгари! Видно, сильно наболело.

*"Я могу рассказать, почему на чемпионате мира в Нагано Котюга осталась без медали,* — делает вступление **Игорь Погорелов**. — *С весны прошлого года я неоднократно говорил на техкоме федерации, что нам необходимы новые лезвия для коньков. Не единожды писал по этому поводу служебные записки. Но, несмотря на то, что у Анжелы лезвия сломались еще в октябре прошлого года (я забил тревогу и буквально завалил федерацию служебными записками), новые мы получили только 5 января — за неделю до японского чемпионата. ... Белорусский союз конькобежцев отнесся к нам наплевательски, и перед чемпионатом мира новые лезвия довести до нужного состояния оказалось невозможно. В Нагано Анжеле пришлось стартовать на старых, отремонтированных лезвиях, так как запасных просто не имелось. Благодаря этому мы потеряли очень много, хотя спортсменка была хорошо готова к чемпионату мира".*





Дальше — больше. В своем обращении тренер утверждает, что приобретенный для его подопечной комбинезон оказался мал, а поэтому на чемпионате спортсменке приходилось его элементарно латать. Комбинезон расползался по швам. Между тем, по его словам, нормальная амуниция для Анжелы есть, но ее просто не дали.

*"Думаю, все закончится тем, что я буду обращаться непосредственно к главе Национального олимпийского комитета Беларуси и просто просить помощи,* — говорит Игорь Погорелов. — *Поскольку бороться с руководством нашей федерации, с ее председателем Игорем Железовским бесполезно. Он на все плюнул, ему коньки не нужны, и средства, выделяемые на развитие нашего вида, вылетают в трубу. ... Я официально заявляю: Железовский планомерно разваливает коньки, мстит Котюге и Погорелову. Он как-то сказал, что Котюга никогда не будет хорошо бегать, но ошибся и не хочет этого признать".*

Вчера в беседе с корреспондентом "Народной воли", так сказать, "ответчик по делу", председатель Белорусского союза конькобежцев **Игорь ЖЕЛЕЗОВСКИЙ** *(на фото слева)* был в полном недоумении:

— В этой ситуации не понимаю одного — при чем здесь я? И почему у Анжелы не оказалось запасных коньков? У нее должно быть их пять пар, и думать об этом надо заранее, а не в последний момент. И форму мы ей хорошую дали — в такой выступают все сильнейшие конькобежки мира. Не того размера? Но в именно в комбинезоне "не того размера" на первых этапах Кубка мира Анжела два раза занимала второе и один раз третье место. Может, следует Игорю Погорелову лучше о подготовке к чемпионату рассказать, а не о всяких "подводных течениях". Я его не видел уже бог знает сколько, он же сидит в Америке и Канаде, и сейчас меня в чем-то обвиняет. Это же какое-то безумие! Говорят о какой-то мести с моей стороны по отношению к Котюге и ее тренеру... Бред полнейший! Да, я когда-то говорил, что Анжела навряд ли завоюет медали, ошибся и признаю это. Рад, что ошибся, всегда поздравляю ее с победами. Но мстить... Как так можно говорить?! Может быть, стоит признать свои тренерские просчеты, а не искать крайнего. А Погорелову, я вам скажу, государство создало абсолютно все условия для тренировочного процесса.

...Понятно, что очередная скользкая ситуация так просто не разрешится. Продолжение последует наверняка. А вот пойдет ли этот скандал на пользу самой спортсменке — другой вопрос.

**Алесь СИВЫЙ.**

**ИЗ ПЕРВЫХ УСТ**

## С 1 февраля в Беларуси увеличатся пенсии

*С 1 февраля в Беларуси увеличатся все виды пенсий — трудовые (включая минимальные), социальные, а также надбавки и повышения, установленные к пенсиям отдельным категориям граждан. Как сообщила министр труда и социальной защиты Антонина Морова в эксклюзивном интервью БелТА, в среднем пенсии возрастут на 17,6%.*

По словам министра, минимальные пенсии увеличатся на 12,6%, а для получателей пенсий с коэффициентом заработка 0,6 и выше — на 18,9%. Для осуществления указанных перерасчетов дополнительно потребуется из Фонда соцзащиты населения министерства 52 млрд. рублей в месяц, а в целом на выплату пенсий в феврале необходимо затратить 340 млрд. рублей. Антонина Морова подчеркнула, что предприняты и предпринимаются необходимые меры, чтобы пенсии были выплачены своевременно, без сбоев.

# Выкладчыкі і студэнты ЕГУ падтрымалі свайго рэктара

Выкладчыкі і студэнты Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта напісалі ліст у падтрымку свайго рэктара **Анатоля Міхайлава** і заклікалі яго не пакідаць пасаду кіраўніка універсітэта.

Як паведаміў першы прарэктар Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта **Уладзімір Дунаеў,** падчас пашыранага пасяджэння Савета (Сената) ЕГУ, якое адбылося 27 студзеня, быў прыняты зварот да старшыні і членаў Назіральнага савета, старшыні і членаў Апякунскага савета ЕГУ, згодна з рашэннем якіх рэктар можа быць адпраўлены ў адстаўку. У звароце падкрэсліваецца, што *"Савет (Сенат) ЕГУ поўнасцю давярае акадэміку Міхайлаву і лічыць недапушчальнымі любыя формы знешняга ўздзеяння, што прымушаюць яго да прыняцця рашэння аб адстаўцы".*

Нагадаем, што 21 студзеня міністр адукацыі Аляксандр Радзькоў выклікаў рэктара Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта акадэміка Анатоля Міхайлава і прапанаваў яму падаць у адстаўку. *"Ніякіх відавочных матываў для гэтага не было прад'яўлена,* — сказаў першы прарэктар ВНУ. — *Апрача таго, у апошні час ніякіх прэтэнзій да універсітэта і да рэктара з боку міністэрства таксама не было".* Разам з тым У.Дунаеў зазначыў, што ў снежні падчас калегіі ў Міністэрстве адукацыі прагучаў папрок адносна вялікай колькасці замежных выкладчыкаў ва універсітэце, аднак пры гэтым ацэнка дзейнасці універсітэта была станоўчай. *"Наша канцэпцыя інтэрнацыяналізацыі вышэйшай адукацыі выклікала крытыку з боку міністра",* — сказаў ён. На сённяшні дзень, паводле слоў У.Дунаева, пакуль няма ніякіх наступстваў сустрэчы рэктара ЕГУ з міністрам адукацыі, паколькі цяпер Анатоль Міхайлаў знаходзіцца ў камандзіроўцы.

Як лічыць У.Дунаеў, магчымая вымушаная адстаўка акадэміка Міхайлава можа пацягнуць за сабой сур'ёзныя наступствы для самога існавання універсітэта. Паколькі, паводле яго слоў, каля 40 працэнтаў бюджэту ЕГУ складае дапамога замежных донараў, якая ў многім абумоўлена высокай навуковай рэпутацыяй рэктара. Цяпер, зазначыў ён, замежныя донары выказалі сумненні ў магчымасці далейшага аказання дапамогі ЕГУ ў выпадку змены яго рэктара.



"Цяпер калектыў ЕГУ працягвае нармальна працаваць, — сказаў першы прарэктар. — Ва універсітэце пачалася зімовая экзаменацыйная сесія...

"Спадзяемся, што ў выніку будзе знойдзена рашэнне, якое задаволіць усе бакі".

У Міністэрстве адукацыі згаданую сітуацыю пакуль не каменціруюць.

**Вольга АСІПЕНКА.**

**ВАШ ВОПРОС — НАШ ОТВЕТ**

# О порядке уплаты физическими лицами подоходного налога

*Не могла бы "Народная воля" рассказать о порядке уплаты физическими лицами подоходного налога?*

**Ольга СУШИЛО, Минск.**

Вы обязаны декларировать Ваши доходы, полученные из нескольких источников, если они превышают сумму в **3.402.000 белорусских рублей** за год. Декларировать свои доходы обязаны граждане Республики Беларусь, а также иностранные граждане и лица без гражданства, постоянно проживающие на территории Республики Беларусь (пребывают на ее территории более 183 дней в календарном году), независимо от того, происходят они от источников в Республике Беларусь либо за ее пределами.

Доходы иностранных граждан и лиц без гражданства, если они не относятся к постоянно проживающим на территории Республики Беларусь, облагаются подоходным налогом в Республике Беларусь только в части, происходящей от источников в Республике Беларусь.

Подоходный налог индивидуальными предпринимателями уплачивается с доходов, которые определяются, как разница между выручкой, получаемой от реализации товаров, работ (услуг) и документально подтвержденными расходами. Ставка подоходного налога зависит от суммы полученного дохода и градуируется от 9 до 30 процентов.

Объектом обложения являются доходы за исключением:

сумм, страховых взносов, уплаченных нанимателем по обязательному страхованию своих работников в порядке, установленном законодательством Республики Беларусь, а также по договорам добровольного страхования дополнительных пенсий и добровольного страхования гражданской ответственности нанимателя за вред, причиненный жизни и здоровью работника, и соответственно сумм страховых выплат по таким договорам, а также по договорам добровольного долгосрочного (на срок не менее трех лет) страхования жизни и договорам страхования, взносы по которым уплачены физическим лицом за счет собственных средств;

сумм, возмещенных страховщиками расходов физического лица-страхователя, произведенных в связи с расследованием обстоятельств страхового события, установлением размера ущерба, судебных расходов, а также иных расходов страхователя, возмещаемых страховщиками в соответствии с действующим законодательством Республики Беларусь и условиями договора страхования;

сумм средств, израсходованных юридическими лицами или предпринимателями на проведение культурно-массовых мероприятий (презентаций, юбилеев, банкетов и иных аналогичных мероприятий, связанных с осуществляемой ими деятельностью), не являются доходами физических лиц — участников указанных мероприятий.

Кроме того, существуют льготы по подоходному налогу, которые подразделяются на два вида — доходы, не подлежащие налогообложению (пункт 1 ст. 3 Закона РБ "О подоходном налоге с физических лиц"), и суммы, предусмотренные к вычету (пункт 2 ст. 3).

Все интересующие вас вопросы вы можете уточнить в налоговой инспекции по месту жительства.

**Антон ЛЮБИЧ.**

